# ЗВЯЗДА

31 ліпеня 1996 г. серада, № 191 (22994)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РЭЗАНАНС

### АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ЗАПРОШАНЫ НА ІНАЎГУРАЦЫЮ БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА

Па запрашэнню Барыса Ельцына Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыме ўдзел ва ўрачыстай цырымоніі з нагоды інаўгурацыі кіраўніка расійскай дзяржавы. Гэта знамянальная для Расіі падзея — уступленне Барыса Ельцына, які атрымаў перамогу на выбарах, на пасаду Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі — адбудзецца ў Крамлі 9 жніўня ў прысутнасці найбольш уплывовых палітыкаў блізкага і далёкага замежжа.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, плануецца таксама, што кіраўнік нашай дзяржавы ў гэты дзень правядзе серыю сустрэч з кіраўніцтвам Расіі.

**БЕЛТА.**

*Высокапаважанаму Уільяму Дж. Клінтану Прэзідэнту Злучаных Штатаў Амерыкі,*
*Вашынгтон*

Шаноўны пан Прэзідэнт!

З вялікай прыемнасцю ўспрыняў Ваша пасланне з нагоды нацыянальнага свята Беларусі — Дня незалежнасці.

Карыстаюся нагодай, каб адзначыць, што Рэспубліка Беларусь высока цэніць садзейнічанне і падтрымку, якую Злучаныя Штаты аказвалі і аказваюць маладой беларускай дзяржаве на шляху ажыццяўлення рыначных пераўтварэнняў і пабудовы адкрытага дэмакратычнага грамадства.

Упэўнены, што прыязныя і партнёрскія адносіны паміж нашымі краінамі будуць развівацца і надалей.

Са шчырымі пачуццямі,

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

Мінск, 30 ліпеня 1996 года.

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### Дык ці было забруджанае мяса?

Як паведаміла ў канцы мінулага тыдня «Звязда» са спасылкай на расійскія сродкі масавай інфармацыі, у Расіі нібыта была затрымана вялікая партыя беларускага мяса з вялікім утрыманнем стронцыю ў касцях. На момант падрыхтоўкі матэрыялу Галоўнае ўпраўленне ветэрынарыі Мінсельгасхарча ніякіх дакументаў на гэты конт не мела.

Паводле ўдакладненых звестак, атрыманая з Расіі інфармацыя — хутчэй за ўсё «вутка». Дэпартамент ветэрынарыі гэтай краіны да гэтага часу не прадставіў беларускаму боку ніякіх афіцыйных дакументаў па прычыне... адсутнасці інфармацыі аб інцыдэнце. На думку галоўнага дзяржаўнага ветэрынарнага інспектара Мінсельгасхарча Станіслава Шпілеўскага, расійскімі сродкамі масавай інфармацыі былі выкарыстаны ўстарэлыя факты, што мелі месца колькі часу таму ў Ленінградскай і Пскоўскай абласцях.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### Імпарт падаражэе?..

Заява, якая не так даўно прагучала з вуснаў адной з адказных асоб краіны, што датычылася імпартных тавараў і гандлёвых прадпрыемстваў нашай рэспублікі, паліцы якіх яны занялі, пацвердзілася. У прыватнасці, размова ішла аб тым, што рыхтуецца рашэнне, згодна з якім будзе ўведзена 50-працэнтная гандлёвая нацэнка на імпартныя тавары. На апошняй калегіі Міністэрства гандлю такое рашэнне было прынята. Цяпер прадпрыемствам гандлю прыйдзецца давесці аб'ём продажу айчынных тавараў да 75 працэнтаў. Выключэнне ж можа быць зроблена толькі для спецыялізаваных магазінаў і асобных харчовых прадуктаў, якія мы ўвозім. Такім чынам, не выклікае сумненняў той факт, што кошт увозімых у рэспубліку тавараў у сувязі з апошнімі падзеямі ўзрасце. Што ж датычыцца айчынных таваравытворцаў, то ў дадзенай сітуацыі яны аказваюцца ў выйгрышы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### Банкі: пакуль яшчэ не фінансавыя піраміды, але...

Няўдзячная справа — лічыць чужыя грошы. Але калі гэта робіць афіцыйная статыстыка, тут ужо варта звярнуць увагу на лічбы. Так, у першым паўгоддзі 1996 года найбольшую заработную плату мелі банкаўскія работнікі — у сярэднім 2,5 млн. рублёў, што значна вышэй, чым у любой іншай галіне народнай гаспадаркі. Адначасцей за ўсё банкіры налічвалі сабе зарплату не за кошт уласных сродкаў, а пры дапамозе прыцягнутых рэсурсаў. Гэта значыць, што нашы камерцыйныя банкі апошнім часам існуюць амаль як тыя ж фінансавыя кампаніі, спадзеючыся, напрыклад, на грошы ўкладчыкаў. З сарака банкаў толькі сем расходавалі на свае патрэбы цалкам уласныя сродкі. Астатнія «праелі» за 6 месяцаў гэтага года больш за 534 млрд. рублёў «чужых» грошай, ці ў сярэднім па 14,4 млн. рублёў на аднаго банкаўскага работніка.

Вядома ж, такое становішча ў банкаўскай сферы зусім не стасуецца з майскім указам Прэзідэнта РБ аб упарадкаванні банкаўскай сістэмы. З гэтай нагоды галоўны банк краіны да канца бягучага года плануе ўвесці больш жорсткія абмежаванні ў дзейнасці камерцыйных банкаў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*СКАНДАЛ*

### Трэба ж і сумленне мець...

**Пачатак гэтай крымінальнай справы быў пакладзены яшчэ летась, калі Беларускай ваеннай пракуратурай сумесна з контрразведкай Камітэта дзяржаўнай бяспекі было выяўлена масавае раскраданне каштоўных металаў з арсенала, які раней належаў ракетна-стратэгічным войскам Расіі.**

У брудной справе прынялі ўдзел былы камандзір арсенала генерал-маёр Круглікаў, замяніўшы яго на гэтай пасадзе палкоўнік Жыхараў, маёр Давідовіч, капітан Мурын і шэраг іншых афіцэраў. Беларускай ваеннай пракуратурай па факту раскрадання была ўзбуджана крымінальная справа — генерал Круглікаў і з ім чатыры афіцэры былі арыштаваны, планаваўся таксама арышт іншых удзельнікаў, а менавіта палкоўніка Жыхарава, маёра Давідовіча і капітана Мурына. Але «тройца» ў жніўні мінулага года паспяхова «дала цягу», бо прысвоена імі было нямала — адных вырабаў з плаціны вагой каля дзесяці кілаграмаў, а таксама дэталі, якія ўтрымліваюць золата, серабро і іншыя рэдказямельныя металы. На працягу бягучага года ішоў пошук «прапаўшых»...

І вось, нарэшце, 25 ліпеня 1996 года, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Беларускай ваеннай пракуратуры, Давідовіч і Мурын прыйшлі з павіннай. Ад іх супрацоўнікі праваахоўных устаноў даведаліся, што ўвесь гэты час афіцэры хаваліся ажно ў Санкт-Пецярбургу і цэлы год вырашалі пытанне аб чысціні афіцэрскага сумлення. Якое, відаць, зусім не хвалюе палкоўніка Жыхарава — месцазнаходжанне яго пакуль невядома.

Такім чынам, следства па справе працягваецца.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### ДВА НОСЬБІТЫ ВІРУСУ СНІДу ВЫЯЎЛЕНЫ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Яшчэ нядаўна на Гродзеншчыне не было выяўлена ніводнага носьбіта СНІДу ці хворага на яго. Але сёлета вірус быў знойдзены спачатку ў жыхара Камеруна, які прыехаў вучыцца ў Гродна, а нядаўна — у маладой гараджанкі.

Па прагнозах медыкаў, цалкам магчыма, што на Гродзеншчыне сёння жыве прыкладна 100 чалавек з небяспечным вірусам. Улічваючы гэта і тое, што заражэнне СНІДам адбываецца пераважна палавым шляхам, Гродзенскі абласны цэнтр прафілактыкі СНІДу мае намер арганізаваць бясплатную раздачу прэзерватываў у месцах адпачынку моладзі.

### УДАЧЛІВАЯ МАХЛЯРКА «НАГРЭЛА» МАГІЛЯЎЧАН НА НЕКАЛЬКІ ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ

На некалькі тысяч долараў «нагрэла» сваіх «кліентаў» у Магілёве ўдачлівая махлярка. Яна абяцала без перашкод аформіць жадаючым замежныя пашпарты і знайсці выгадную працу за мяжой.

Напрыклад, адной сямейнай пары, якая была шчодрай на тысячу «зялёных», гарантавалі працу ў... беларускім пасольстве за мяжой. Натуральна, грошы даверлівых грамадзян зніклі бясследна.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## ВЫШЭЙШАЯ ВЫКАНАЎЧАЯ ЎЛАДА АЦАНІЛА СВАЕ ДЗЕЯННІ ПА ВЫВАДУ ЭКАНОМІКІ КРАІНЫ З КРЫЗІСУ

«Сённяшняе пасяджэнне вышэйшага калегіяльнага палітычнага органа краіны праходзіць на рубежным этапе развіцця нашага грамадства». Гэтымі словамі Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка адкрыў сумеснае пасяджэнне калегіі Кабінета Міністраў і Савета бяспекі, якое адбылося 30 ліпеня ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. На абмеркаванне былі вынесены два важнейшыя пытанні — вынікі работы народнай гаспадаркі рэспублікі за першае паўгоддзе і першачарговыя меры па стабілізацыі эканомікі.

Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, удзельнікі нарады — члены Савета бяспекі і ўрада, а таксама запрошаныя кіраўнікі добра разумеюць значэнне ўнесеных у парадак дня пытанняў. Галоўная задача сумеснага пасяджэння — абмеркаваць і аб'ектыўна ацаніць сацыяльна-эканамічную сітуацыю, якая склалася ў краіне, вызначыць канцэптуальныя напрамкі эканамічнай палітыкі, а пры неабходнасці ўнесці карэктывы ў дзеянні па вываду эканомікі з крызісу. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што лёс краіны і ўлады ў канчатковым выніку будзе залежаць ад таго, наколькі сумленным і прынцыповым будзе праведзены дыялог кіраўнікоў рэспублікі.

На думку Аляксандра Лукашэнкі, зацяжны характар крызісу эканомікі, які працягваецца вось ужо шэсць гадоў, уяўляе рэальную пагрозу для бяспекі краіны. У вельмі цяжкіх умовах знаходзілася Беларусь і два гады таму, калі адказнасць за яе лёс узялі на сябе першы беларускі Прэзідэнт і сфарміраваны ім урад. Аднак два гады, лічыць Аляксандр Лукашэнка, — дастатковы тэрмін, каб падвесці вынікі дзейнасці вышэйшай выканаўчай улады па вываду краіны з крызісу. Ці было зроблена ўсё неабходнае для стабілізацыі сітуацыі, што канкрэтна перашкаджала ўраду, кіраўнікам ведамстваў, галін і прадпрыемстваў ісці ў гэтым напрамку?

Ранейшыя спасылкі на разрыў эканамічных сувязей ужо даволі ўстарэлі, лічыць кіраўнік дзяржавы. Галоўным крытэрыем работы народнагаспадарчага комплексу павінны стаць канкрэтныя вынікі і эфектыўнасць мераў, якія прымае вышэйшая выканаўчая ўлада. Менавіта сёння, на думку Аляксандра Лукашэнкі, кіраўніцтва краіны павінна адказаць на галоўнае пытанне: ці здольны мы вывесці краіну з крызісу і што гэтаму перашкаджае?

Прэзідэнт адзначыў, што да гэтага часу чуў запэўніванні ад урада аб станоўчых тэндэнцыях на макраэканамічным узроўні. Аднак хацелася б пачуць думку прэм'ера, сказаў Аляксандр Лукашэнка, і па другому важнаму пытанню: наколькі падышоў урад да стабілізацыі на мікраўзроўні, ад чаго, перш за ўсё, залежыць змесціва кашалька працаўнікоў краіны?

Падвядзенне вынікаў работы народнай гаспадаркі за першае паўгоддзе ў кантэксце агульных вынікаў дзейнасці ўрада за апошнія два гады, абмеркаванне першачарговых мераў па стабілізацыі сітуацыі дапамогуць не толькі ўбачыць тэндэнцыі, што склаліся ў эканоміцы, але і прааналізаваць магчымыя сацыяльна-палітычныя вынікі для нашага грамадства, заявіў Аляксандр Лукашэнка. Заклапочанасць і трывогу выказаў кіраўнік дзяржавы наконт палітычнай сітуацыі, што склалася ў краіне. Яе пагаршэнню, на жаль, садзейнічаюць і некаторыя вышэйшыя службовыя асобы, сказаў Прэзідэнт.

З асноўным дакладам на сумесным пасяджэнні выступіў кіраўнік урада Міхаіл Чыгір, з судакладам — дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман.

Удзельнікі нарады намецілі першачарговыя меры, накіраваныя на стабілізацыю эканомікі. Асаблівая ўвага была ўдзелена праблемам паглыблення інтэнсіфікацыі эканомікі, перспектывам фінансава-крэдытнай сістэмы, ліквідацыі запазычанасцей, стымуляванню экспарту, палітыцы функцыянавання рынку працы, інвестыцыйнай палітыцы, павышэнню эфектыўнасці сістэмы народнай гаспадаркі ў цэлым.

Па выніках праведзенага абмеркавання прынята пастанова.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

*ЖНІВО-96*

## ГАТОЎНАСЦЬ ПЕРАД ВЫХАДАМ У ПОЛЕ

**Карэспандэнт «Звязды» сустрэўся са старшынёй Камітэта сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Мінскага аблвыканкома Аляксандрам Ільічом ЕРАШУКОМ.**

— Раней мы атрымалі 25 мільярдаў для забеспячэння належных умоў правядзення жніва, а зусім нядаўна ўрадам выдзелена яшчэ 114,5 мільярда авансам пад будучы ўраджай. Гэтыя грошы паступілі на хлебакамбінаты і размяркоўваюцца сярод гаспадарак. Вядома, гэта значнай ступені падтрымлівае гаспадаркі, але ж сродкі выдзяляюцца авансам. Нічога з неба не падае, трэба настройвацца на сур'ёзную работу, а не чакаць, пакуль табе нешта падкінуць. Таму мне прыкра гаварыць аб тым, што ёсць яшчэ кіраўнікі, якія тэлефануюць і прама гавораць: «Дай грошай, а то не збяру ўраджай». Проста дэфармацыя асобы нейкая, сапраўдная філасофія жабрака. Працуй шчыра і аддана і тады не будзеш стаяць з працягнутай рукой.

**— Тэхніка зараз у вобласці ў належным стане?**

Тэхніка падрыхтавана да пачатку жніва амаль на 100 працэнтаў. Летась было спісана 332 камбайны, а набылі мы толькі 26. Нагрузка на кожны камбайн у сярэднім 109 гектараў. У Смалявіцкім, Чэрвеньскім, Старадарожскім, Вілейскім і Уздзенскім раёнах гэтая лічба вагаецца ў межах ад 131 да 142 гектараў, а ў 67 гаспадарках — звыш 150 гектараў, а то і ўсе 200. Ёсць, праўда, раёны (Мінскі і Нясвіжскі), дзе нагрузка складае і 80 —89 гектараў: там раней паклапаціліся аб тым, каб набыць новую тэхніку.

**— З тэхнікай праблем узнікнуць падчас уборачнай не павінна, а як з палівам?**

— Гэта самая галоўная і самая складаная праблема. Тыя крэдыты і авансы, што мы атрымалі, а таксама таварны крэдыт, які паабяцаў Прэзідэнт на селектарнай нарадзе, вельмі неабходны і патрэбны. Але ж крэдыты заўсёды застануцца палкай з двума канцамі, бо іх неабходна пагашаць. Шэраг кіраўнікоў і без урадавай дапамогі забяспечылі свае гаспадаркі палівам. Увогуле ж, для правядзення ўборачнай вобласці патрэбна 55 тысяч тон дызельнага паліва і 35 тон бензіну. А зараз мы маем каля 10 і 5 тысяч тон адпаведна. Становішча цяжкае, але трэба заўсёды шукаць выйсце, хоць бы з той жа перапрацоўкай — прадпрыемствы завінаваціліся калгасам і саўгасам каля 70 мільярдаў.

**— Нейкія пэўныя прагнозы на ўраджай гэтага года маюцца?**

Мінулагоднія паказчыкі мы перавысім. Каб забяспечыць вобласць уласным збожжам. Так, калі летась патрэбна было акрамя таго, што сабралі, закупіць яшчэ 250 тысяч тон, то ў гэтым павінны пракарміцца самі.

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЗБОЖЖА З ПАЛЁЎ ПАЙШЛО Ў ЗАСЕКІ

Першыя тры тысячы тон збожжа ўраджаю сёлетняга года здалі дзяржаве гаспадаркі Брэсцкай і Гомельскай абласцей, якія першымі пачалі ўборачныя работы. Чакаецца, што ўжо ў бліжэйшы час да іх далучацца і астатнія вобласці, дзе ўборка «стартуе» літаральна днямі.

Нагадаем, што ў 1995 годзе калгасы і саўгасы здалі дзяржаве 1 млн. 729,1 тыс. тон збожжа, выканаўшы план толькі на 78,5 працэнта (у пачатку бягучага года была даздадзена яшчэ невялікая колькасць збожжа, што, зрэшты, практычна не змяніла сітуацыю). Такое становішча з невыкананнем плана нарыхтовак паўтараецца з году ў год і змяніць тут што-небудзь цяжка: гаспадаркі ўпарта даздаюць збожжа з надыходам новага года. Магчыма, па гэтай прычыне сёлета і быў зменшаны план нарыхтовак збожжа, які складае 1 млн. 900 тыс. тон замест мінулагодніх 2 млн. 200 тыс. тон. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве хлебапрадуктаў, у гэтым годзе вобласці будуць пакідаць фуражнае зерне на захоўванне ў сябе, адсюль і змяншэнне лічбы, нягледзячы на чакаемы больш высокі, чым у папярэднім годзе, ураджай.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПРАБЛЕМЫ З ПАЛІВАМ ДЛЯ ЎБОРАЧНАЙ ЗДЫМАЮЦЦА. ПАСТУПІЛІ ПЕРШЫЯ 300 ТЫСЯЧ ТОН СЁЛЕТНЯГА ЗБОЖЖА

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў створаным пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання штабе па ўборцы, да жніва зараз прыступілі 80 працэнтаў раёнаў рэспублікі. Усяго сабрана збожжа са 127 тысяч гектараў, што складае пяць працэнтаў ад пасеянага, абмалочана — са 121 тысячы гектараў, намалочана 300 тысяч тон збожжа. Ураджайнасць зараз складае 23,3 цэнтнера з гектара. Наконт праблем з палівам у штабе па ўборцы запэўнілі, што дзякуючы выдзеленым крэдытам трактары і камбайны падчас жніва не спыняцца.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*

Atlanta 1996

## Табліца размеркавання 173 камплектаў узнагарод пасля дзесяці дзён спаборніцтваў

| № п/п | Назва краіны | Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ЗША | 24 | 27 | 13 | 64 |
| 2. | Расія | 15 | 13 | 10 | 48 |
| 3. | Францыя | 13 | 6 | 12 | 31 |
| 4. | Кітай | 11 | 13 | 8 | 32 |
| 5. | Германія | 10 | 11 | 19 | 40 |
| 6. | Італія | 10 | 6 | 9 | 25 |
| 7. | Аўстралія | 7 | 8 | 15 | 30 |
| 8. | Польшча | 6 | 5 | 4 | 15 |
| 9. | Украіна | 5 | 2 | 5 | 12 |
| 10. | Румынія | 4 | 5 | 7 | 16 |
| 11. | Венгрыя | 4 | 3 | 6 | 13 |
| 12. | Грэцыя | 4 | 3 | - | 7 |
| 13. | Куба | 3 | 5 | 7 | 15 |
| 14. | Паўдн.Карэя | 3 | 5 | 4 | 12 |
| 15. | Японія | 3 | 4 | 3 | 10 |
| 16. | Новая Зеландыя | 3 | 2 | 1 | 6 |
| 17. | Турцыя | 3 | - | 1 | 4 |
| 18. | Ірландыя | 3 | - | 1 | 4 |
| 19. | Швейцарыя | 3 | - | - | 3 |
| 20. | Канада | 2 | 6 | 6 | 14 |
| 21. | Бразілія | 2 | 2 | 3 | 7 |
| 22. | Бельгія | 2 | 2 | 2 | 6 |
| 23. | ПАР | 2 | - | 1 | 3 |
| 24. | Эфіопія | 2 | - | - | 2 |
| 25. | Беларусь | 1 | 4 | 7 | 12 |
| 26. | Галандыя | 1 | 3 | 8 | 12 |
| 27 | Вялікабрытанія | 1 | 3 | 4 | 8 |
| 28. | Казахстан | 1 | 3 | 1 | 5 |
| 29. | Чэхія | 1 | 2 | 1 | 4 |
| 30. | Фінляндыя | 1 | 2 | 0 | 3 |
| 31. | КНДР | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 32. | Югаславія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 33. | Іспанія | 1 | 1 | 2 | 4 |
| 34. | Славакія | 1 | - | 1 | 2 |
| 35. | Коста-Рыка | 1 | - | - | 1 |
| 36. | Арменія | 1 | - | - | 1 |
| 37. | Эквадор | 1 | - | - | 1 |
| 38. | Ганконг | 1 | - | - | 1 |
| 39. | Сірыя | 1 | - | - | 1 |
| 40. | Данія | 1 | - | - | 1 |
| 41. | Балгарыя | - | 4 | 4 | 8 |
| 42. | Швецыя | - | 2 | - | 2 |
| 43. | Ямайка | - | 2 | - | 2 |
| 44. | Кенія | - | 2 | - | 2 |
| 45. | Аўстрыя | - | 1 | 1 | 2 |
| 46. | Узбекістан | - | 1 | - | 1 |
| 47. | Славенія | - | 1 | - | 1 |
| 48. | Харватыя | - | 1 | - | 1 |
| 49. | Намібія | - | 1 | - | 1 |
| 50. | Нарвегія | - | 1 | - | 1 |
| 51. | Аргенціна | - | 1 | - | 1 |
| 52. | Малдавія | - | - | 1 | 1 |
| 53. | Грузія | - | - | 1 | 1 |
| 54. | Мексіка | - | - | 1 | 1 |
| 55. | Трынідад і Табага | - | - | 1 | 1 |
| 56. | Манголія | - | - | 1 | 1 |
| 57. | Ізраіль | - | - | 1 | 1 |
| 58. | Нігерыя | - | - | 1 | 1 |
| 59. | Мазамбік | - | - | 1 | 1 |
| 60. | Уганда | - | - | 1 | 1 |
| 61. | Марока | - | - | 1 | 1 |

### БРОНЗАВЫ ДОЖДЖ НА ГАЛАВУ ВІТАЛЯ ШЧЭРБЫ

Бронзавую рысу падвёў шасціразовы чэмпіён Барселонскай Алімпіяды Віталь Шчэрба на Гульнях у Атланце. У заключны дзень выступлення гімнастаў мінчанін змог заваяваць бронзавыя медалі адразу на трох снарадах: на перакладзіне, у апорным скачку і на брусах. Калі прыбавіць сюды медаль такой жа вартасці са шматбор'я, то ў мінчаніна ў скарбонцы аказалася чатыры «бронзы». Усяго ж на рахунку беларускай каманды такіх медалёў 7.

На «бронзу» кінула дыск і чэмпіёнка свету-95 Эліна Зверава.

Блізка да п'едэстала гонару быў наш цяжкаатлет Уладзімір Емяльянчык (108 кг). У яго — 4-е месца.

Да заканчэння XXVI Алімпійскіх Гульняў застаецца тыдзень. Беларусам, каб утрымацца ў дваццатцы мацнейшых краін свету патрэбен як мінімум адзін залаты медаль. Прэтэндэнтаў, каб яго заваяваць, шчыра кажучы, засталося нямнога. Магчыма, гэтую адказнасць возьме на сябе сёння суперцяжкавагавік Аляксандр Курловіч. А можа пашанцуе дыскаболу Уладзіміру Дуброўшчыку.

*Пасля вядомага выступлення старшыні Камітэта Дзяржаўнай Думы Расіі па бяспецы В. І. Ілюхіна (дзе прагучала сенсацыйнае выкрыццё амерыканскіх спецслужбаў, якія нібыта рыхтуюць масавыя беспарадкі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з канчатковай мэтай — адхіліць ад улады Прэзідэнта РБ Аляксандра Лукашэнку), Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі звязаўся па тэлефоне з першым намеснікам Старшыні Дзяржаўнай Думы Аляксандрам Шохіным. У сувязі з тым, што выказванні спадара Ілюхіна з нагоды супрацоўніцтва з афіцэрамі ЦРУ пяцідзесяці дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ былі пракаменціраваны некаторымі беларускімі палітыкамі, Сямён Шарэцкі папрасіў растлумачыць сітуацыю. Аляксандр Шохін заявіў па тэлефоне, што выступленне дэпутата Дзярждумы Ілюхіна не адлюстроўвае думку заканадаўчага сходу Расійскай Федэрацыі.*

*28 ліпеня на імя Старшыні Вярхоўнага Савета РБ былі атрыманы афіцыйныя прабачэнні першага намесніка Старшыні Дзяржаўнай Думы Расіі.*

### *Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкаму*

Паважаны Сямён Георгіевіч!

Лічу неабходным выказаць свае адносіны да заявы, зробленай старшынёй Камітэта Дзяржаўнай Думы па бяспецы В. І. Ілюхіным.

На прэс-канферэнцыі ў будынку Дзяржаўнай Думы 25 ліпеня 1996 года старшыня Камітэта Дзяржаўнай Думы па бяспецы В. І. Ілюхін выступіў з заявай, дзе, у прыватнасці, гаворыцца, што група высокапастаўленых афіцэраў ЦРУ павінна была арганізаваць у Беларусі масавыя беспарадкі з удзелам баевікоў з украінскай УНА-УНСО. Канчатковай мэтай аперацыі з'яўляецца адхіленне ад улады Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі і спыненне інтэграцыйных працэсаў паміж Расіяй і Беларуссю. У заяве таксама ўпаміналася аб дачыненні да антыпрэзідэнцкай змовы групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Заява В. І. Ілюхіна не знайшла пацвярджэння ў ведамствах бяспекі Расіі і Беларусі. Між тым, выклікае вялікія сумненні, што арганізацыя такіх шырокамаштабных акцый магла прайсці міма ўвагі спецыяльных службаў нашых дзяржаў. Недавер да заявы В. І. Ілюхіна ўзнікае таксама з-за некаторых сумніўных дэталяў прадстаўленай інфармацыі.

Такія выказванні афіцыйнай асобы, якой з'яўляецца В. І. Ілюхін, аб'ектыўна ўзмацняюць напружанасць у Беларусі, ускладняюць адносіны паміж Расіяй, Беларуссю і Украінай, у канчатковым выніку аказваюць негатыўнае ўздзеянне на распачаты інтэграцыйны працэс незалежных славянскіх дзяржаў.

У Дзяржаўнай Думе Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі расцэньваюць заяву В. І. Ілюхіна як выказванне яго асабістай думкі. Дзяржаўная Дума ў сваіх заявах і дзеяннях, якія датычаць сферы міждзяржаўных адносінаў, зыходзіць з прыхільнасці да справы далейшага збліжэння славянскіх і ўсіх народаў, якія насяляюць краіны Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Гэта збліжэнне мае доўгатэрміновы і аб'ектыўны характар, адпавядае інтарэсам нашых дзяржаў. Са свайго боку Дзяржаўная Дума гатова зрабіць усё, што ад яе залежыць, каб аблегчыць і паскорыць інтэграцыйныя працэсы, стварыць адносіны даверу і дружбы паміж усімі краінамі СНД.

У заключэнне дазвольце мне папрасіць прабачэння з нагоды зробленай дэпутатам В. І. Ілюхіным заявы, якая не адпавядае духу ўзаемаразумення і супрацоўніцтва паміж народамі і парламентамі Расіі і Беларусі.

**Са шчырай павагай**
**А. Н. ШОХІН.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ... ДАЦЬ РЭКЛАМНУЮ АБ'ЯВУ

Напэўна, многія чытачы яшчэ памятаюць тыя часы, калі па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза ледзь не адзінай шырокамаштабнай рэкламнай акцыяй можна было лічыць толькі плакат «Лятайце самалётамі Аэрафлота». Як кажуць, проста і з густам, тым больш што выбару ўсё роўна не было. Ды і навошта? Толькі прыгадайце, як цудоўна мы жылі: кожны ведаў, што нашы тавары і паслугі — самыя лепшыя ў свеце. Эх, быў жа час! Але пакрысе рэклама неяк непрыкметна ўвайшла ў наша жыццё, стаўшы абавязковым яе сімвалам. Прыгадваю, як напачатку людзі яшчэ адзначалі, літаральна падхоплівалі добрыя ўзоры («Вам пора и вам пора с вентиляторным заводом заключать договора!»), затое потым змянілі сваё меркаванне на процілеглае, што, напэўна, знайшло найлепшае ўвасабленне ў шматлікіх анекдотах на гэтую тэму. Рэклама пачала раздражняць, не гаворачы ўжо аб тым, што некаторыя яе ўзоры (прапанова алкагольных і тытунёвых вырабаў) шкодна ўздзейнічаюць на свядомасць чалавека. Зрэшты, без рэкламы зараз цяжка пражыць і спажыўцам і вытворцам, таму з ёй прыходзіцца мірыцца. Ды і простага чалавека рэклама раздражняе толькі да таго моманту, пакуль у ёй не з'явіцца неабходнасці. Нешта прадаць, або купіць, зняць кватэру, прапанаваць паслугі — ды ці мала ў сучаснага чалавека прычын, каб бліжэй пазнаёміцца з рэкламай. А ці многія з нас ведаюць, колькі гэта задавальненне каштуе (гаворка пойдзе пра невялікія рэкламныя аб'явы)? Прыватнік найперш можа звярнуцца ў спецыялізаваныя выданні накшталт газет «Из рук в руки», «Из первых рук» і інш. Каб убачыць сваё паведамленне на іх старонках, дастаткова запоўніць спецыяльны купон, кінуць яго ў скрынку і — ніякіх грошай. Каб зэканоміць сродкі, можна таксама карыстацца бясплатнымі купонамі для прыватных аб'яў, што змяшчаюць некаторыя штотыднёвыя газеты, напрыклад «Звязда». Дарэчы, туды ж, але за грошы, могуць звярнуцца па дапамогу і фірмы. Напрыклад, у «Советской Белоруссии» кошт аднаго квадратнага сантыметра рэкламнай плошчы (у залежнасці ад таго, на якой паласе — унутранай, апошняй — будзе змешчана аб'ява) у розныя дні тыдня ацэньваецца ад 42 да 52 тысяч рублёў і ад 42 да 56 тысяч рублёў адпаведна. Размяшчэнне рэкламы ў суботнім нумары на паласе з тэлевізійнай праграмай абыдзецца ўжо ў 96 тысяч рублёў за квадратны сантыметр. Калі падабаецца «Рэспубліка», рыхтуйцеся выкласці за адзін квадратны сантыметр газетнай плошчы ў аўторак — 74 тысячы рублёў, сераду — 59 тысяч, чацвер — 56 тысяч, пятніцу і суботу — 45 тысяч рублёў. Рэклама на першай паласе ва ўсе дні будзе каштаваць у два разы даражэй. У «Звяздзе» аб'яву ў залежнасці ад дня тыдня і нумару газетнай старонкі можна размясціць па цане 22.000—50.000 рублёў за квадратны сантыметр. Нагадаем, што ў выпадку вялікіх плошчаў рэкламы заказчыкі маюць пэўныя скідкі (звычайна 5—20 працэнтаў ад сумы).

Калі брацца за справу сур'ёзна, ніяк не абысціся без тэлебачання і радыё. Кошт паведамлення працягласцю 15 секунд (калі менш, рэклама горш успрымаецца) на радыё ў самы лепшы час (6.35, 8.00, 12.55, 13.50) будзе каштаваць 85 долараў ЗША. Калі вы вырашылі не эканоміць, за 20 секунд трэба будзе плаціць ужо 100 долараў. На тэлебачанні трансляцыя невялікага рэкламнага роліка (5 секунд, але звычайна заказваюць 10—15—20 секунд) з 7 раніцы да 18.00 вечара абыдзецца ў 15 долараў (нагадаем: за 5 секунд), з 18.00 да 19.30 — у 30 долараў, з 19.30 да 22.30 — у 50 долараў.

Пры продажы будынкаў або аўтамабіляў у дадатак да тэксту можна даваць здымкі. Так, газета «Автобизнес» у рубрыцы «Фотовитрина» задаволіць гэтае ваша жаданне ўсяго за 70 тысяч рублёў, калі вы будзеце аплочваць па наяўнаму і 400 тысяч рублёў — калі па безнаяўнаму разліку.

Ну а як быць, калі хочацца павіншаваць па радыё знаёмага, сябра, бацькоў з нейкім юбілеем, іншай радаснай падзеяй? Як высветлілася, перадача Беларускага радыё «У абедзенны перапынак» зробіць гэта бясплатна. Не возьмуць з вас грошай і на «Радыё 101,2». Тэлефануйце — і вы зробіце для вашых блізкіх людзей свята яшчэ больш запамінальным.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 276

### Аб стаўцы акцызаў на вінаградныя віны

У мэтах устанаўлення адзінай з Расійскай Федэрацыяй стаўкі акцызаў на вінаградныя віны і надалей да ўнясення змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАЎЛЯЮ:

1. Устанавіць з 1 жніўня 1996 г. стаўку акцызаў на сухія, паўсухія і мацаваныя вінаградныя віны, што выпрабляюцца прадпрыемствамі Рэспублікі Беларусь, у памеры 20 працэнтаў.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 студзеня 1997 г. прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь справаздачу аб эканамічным эфекце, атрыманым у выніку зніжэння стаўкі акцызаў на вінаградныя віны.

3. Гэты Указ увесці ў дзеянне з 1 жніўня 1996 г.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

30 ліпеня 1996 г.
г.Мінск.

### ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ СУСТРЭЎСЯ З ЛОРД-МЭРАМ ЛОНДАНА

Лорд-мэр Лондана Джон Чэлстры ў ходзе свайго візіту ў беларускую сталіцу сустрэўся з Прэзідэнтам рэспублікі Аляксандрам Лукашэнкам. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Пасольстве Вялікабрытаніі ў Беларусі, пан Чэлстры меў гутарку з кіраўніком нашай дзяржавы на прыёме, які адбыўся вечарам 26 ліпеня ў гонар Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь. У размове з Аляксандрам Лукашэнкам лорд-мэр брытанскай сталіцы запэўніў яго ў тым, што візіт дэлегацыі з Лондана быў накіраваны перш за ўсё на ўзмацненне двухбаковых адносінаў паміж Беларуссю і Вялікабрытаніяй і развіццё патэнцыяльных эканамічных і гандлёвых сувязей паміж дзяржавамі.

* * *

Знаходзячыся ў Мінску, лорд-мэр брытанскай сталіцы наведаў Рэспубліканскі цэнтр пухлін шчытападобнай залозы, дзе сустрэўся з урачамі. Пан Чэлстры перадаў у падарунак клініцы ад сябе і МЗС Вялікабрытаніі сучасны аперацыйны стол.

**БЕЛТА.**

*Мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» ГАЯВОЙ В.І.*

Шаноўная Валянціна Іванаўна!

Прыміце мае шчырыя і сардэчныя віншаванні з нагоды Вашага юбілею.

Аматары харэаграфічнага мастацтва не толькі нашай краіны, але і далёка за яе межамі добра ведаюць Вас як цудоўнага, высокапрафесіянальнага майстра харэаграфіі, кіраўніка славутага калектыву ансамбля «Харошкі».

Ваша творчая біяграфія — гэта цэлая эпоха ў нацыянальным мастацтве.

Створаная Вамі харэаграфічная школа стала нацыянальнай культурнай спадчынай Беларусі, здабыла ўсеагульнае прызнанне і высокі аўтарытэт.

Вы па праву карыстаецеся вялікай павагай, прызнаннем і любоўю беларускага народа. Ансамбль «Харошкі», які Вы ўзначальваеце, многа гадоў з'яўляецца калектывам яркай творчай індывідуальнасці, высокай сцэнічнай культуры, візітнай карткай мастацтва нашай рэспублікі і з гонарам прадстаўляе Беларусь ва ўсім свеце.

Жадаю Вам, шаноўная Валянціна Іванаўна, моцнага здароўя, вялікага шчасця, добрага настрою і новых творчых поспехаў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

30 ліпеня 1996 г.

## АДНЫМ СКАЗАМ

■ Агульная **плошча лясоў,** якія пакрываюць тэрыторыю рэспублікі, — 8680 тысяч гектараў, што складае каля 35,5 працэнта.

■ Да распаду СССР у краіны далёкага замежжа Беларусь **адгружала ўсяго 3 працэнты сваёй прадукцыі,** у мінулым жа годзе гэты экспарт перавысіў 50 працэнтаў.

■ За першае паўгоддзе, па апошніх даных, з незаконнага абароту **канфіскавана 1 тона 172 кілаграмы наркатычных сродкаў** і сыравіны для іх прыгатавання, што ў паўтара раза больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

■ У Светлагорску ўжо праверана **на наяўнасць віруса СНІДу** больш за тры тысячы жыхароў з ліку груп рызыкі: наркаманаў, бамжоў, асоб лёгкіх паводзінаў.

■ Хлебаробам Віцебшчыны належыць убраць **збожжавых і зернебабовых** на 10 тысяч гектараў менш, чым у мінулым годзе — 477 тысяч гектараў.

■ За апошнія два гады ў пяць разоў павялічылася **колькасць стратных** саўгасаў і калгасаў.

■ Калі ў мінулым годзе **тавараабарот** паміж Беларуссю і Брытаніяй склаў 76 мільёнаў долараў, то за гэты — **ужо 74 мільёны долараў.**

■ У гэтым годзе за шэсць месяцаў 7 тысяч злачынстваў учынены **жанчынамі**, 3,9 — **непаўналетнімі**, 8 тысяч злачынстваў учынілі **раней судзімыя,** 13,5 тысячы злачынцаў нідзе не працавалі і не вучыліся.

*ТРАГЕДЫІ*

## БАРЫСАЎСКАЯ СПРАВА: АХВЯРАМІ ЗАБОЙЦАЎ СТАЛА СЯМ'Я ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

У чвэрць першай ночы 26 ліпеня ў гарадскі аддзел унутраных спраў Барысава патэлефанавалі пажарныя: пры тушэнні пажару ў доме № 17 па вуліцы Якуба Коласа знойдзены трупы гаспадароў кватэры з мноствам нажавых раненняў. Сышчыкі выехалі адразу ж на месца здарэння.

Гаспадары кватэры, муж і жонка Танчэевы, а таксама маці мужа, 65-гадовая кабета, наўрад ці падазравалі, што пятніца стане апошняй для іх у жыцці. Жанчыны бліжэй да поўначы ўжо ляглі спаць, гаспадар рыхтаваўся таксама ўзяць з іх прыклад. І тут у кватэру нехта пастукаўся. Танчэеў, які, дарэчы, разам з жонкай займаўся прадпрымальніцтвам, нічога дрэннага не западозрыўшы, адчыніў дзверы... і тут жа атрымаў першы ўдар нажом у шыю, потым у грудзі. На шум у кватэры выбегла жонка Танчэева, якую забойцы таксама не пашкадавалі. У ход пайшлі нажы. Жанчына, якая атрымала некалькі нажавых раненняў у спіну, усё ж такі змагла праз запасны выхад выбегчы на вуліцу, дзе ад атрыманых ран адразу ж і памерла. Напалоханыя тым, што яна зможа выклікаць дапамогу, далей забойцы дзейнічалі больш хутка. Уварваўшыся ў спальню старой, яны паставілі крыж і на яе жыцці. Каб не пакідаць слядоў свайго варварства, бандыты аблілі кватэру бензінам і падпалілі...

За ўсім гэтым назірала дачка Танчэевых, 14-гадовая дзяўчынка, якая не знайшла ў сабе сіл ні закрычаць, ні кінуцца на дапамогу бацькам. Ужо потым, калі языкі полымя і густы дым ахуталі кватэру, яна змагла выклікаць пажарных.

На пошук нелюдзяў былі кінуты лепшыя работнікі крымінальнага вышуку. Пад асабісты кантроль справу ўзялі начальнік упраўлення крымінальнага вышуку УУС Мінаблвыканкома Н. Іванчыкаў, яго намеснік В. Лаўрэнаў, начальнік УУС Мінаблвыканкома І. Шыкала. Вынікі расследавання хутка вывелі сышчыкаў на след забойцаў: праз паўтара сутак пасля злачынства яны былі затрыманы. Як выявілася, імі аказаліся нідзе не працуючы барысаўчанін і раней судзімы работнік станцыі вадазбору. Па іх словах, матывам для гэтай крывавай драмы стала асабістая непрыязнасць злачынцаў да Танчэева. Прынамсі, злачынца, які абліваў кватэру забітых бензінам, сцвярджае, што бачыў жывую дзяўчынку, аднак пашкадаваў яе і не стаў забіваць. Каб потым спаліць...

**Ігар ШЧУЧЭНКА, Сяргей ШОСТАК.**

